# ЗЬМЕСТ:



Мастак
Барыс МАЛКІН

Вокладка У. СЕМЯНЯКІ
„БУДУЕМ“

пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

Студзень 1931

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59
ТЭл. № 17—09



**Ізноў жывы, ізноў мяцежны**
**Ён устае, як ў даўні дні...**

## ЛЕНІНУ

Я помню—плакала зямля
Надрыўным голасам Шопэна...
І ноч глыбокая лягла,
І сьнег халодны па калені.

Мільёны рук яго нясьлі,
Мільёны згорбленых трагедый.
І сэрца грознае зямлі
Змаўкала раптам недзе.

І ўсім здавалася тады,
Што ён упёс з сабою вечна
Змаганьня сьветлага гады
І нашай праўды чалавечнасьц.

І кожны думаў, што адны
Мы засталіся сіратамі,
Што частку нашае вясны
Нясьлі мы з ім ў магілу самі.

І вось халодны маўзалей
Заціяў каменнымі рукамі
Таго, хто сонца быў сьвятлей,
Таго, хто заўжды жыў між намі.

Але й адтуль, з цішы жалезнай.
З адвечнай грознай цішыні
Ізноў жывы, ізноў мяцежны
Ён устае, як ў даўні дні.

І узрастаюць зноў палацы,
І дзень і ноч—агонь і дым...
Вякі не зналі гэткай працы,
Што нашы ўздыбілі гады.

Прад тым, кім сьвет заваяваны,
Хто бесьсьмяротным быў заўжды
Схіляюць галаў днепрэльстаны,
Растуць пад песьні гарады.

Няхай-жа будзе лепшай песьняй
І лепшым помнікам яму
Мільённых мас жывая чэснасьць,
Адданасьць гордая, бяз мук.

І наша слаўнае змаганьне,
Уздымы фабрык, гул машын
І ўжо квітнеючае раньне,
За што змагаўся ён і жыў!..

ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ





СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА НЕАХОПНАГА САВЕЦКАГА САЮЗУ— ЖЫВЫ ПОМНІК ЛЕНІНУ!




# Далека-Усходняя

Апавяданьне Анатоля Вольнага.

Малюнкі Давідовіча.

## I

СІНЯЙ дымкай вечару ахутваліся сопкі. Неахопная шырыня прастору раскідвалася навокал. Ціха праходзілі над зямлёю ветры і сьпявалі яны ўзнэрвованым голасам.

Ён прачнуўся пры ня зусім звычайных абставінах.

Паволі здалёку, як надыходзячыя з краю неба воблакі, усплывалі думкі.

Так... Пааберуч яго ляжалі трупы. Ён хацеў варухнуцца, паклікаць жывых над гэтай вялікай трупярняй, але галава бясьсільна ўпала ў вільготную зямлю.

І бясьсільна зачыніліся вочы...

І толькі чырвоны сьцяг на яго грудзёх урачыста глядзеў на дымчатыя воблакі чужога далёкага неба.

І было невядома ці памірае ён, ці жыцьцё адчыняе заслону над здарыўшымся.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

ТРОЕ было іх у вопратках кітайскіх афіцэраў, якія пад аховаю кітайскіх салдат, саскочылі на бераг са ўзброенага кітайскага кацера. На берагу Сунгары, у надыходзячым змроку, сінелі сярод сопак прастрэленыя людзі. Ціха стагнаў Сунгары і біўся хвалямі аб бераг.

Хвалі ўзьвіваліся, глядзелі на бераг і, паглядзеўшы на пакрытыя трупамі сопкі, халоднымі мёртвымі ўсплёскамі падалі далоў.

І тады на берагу, сярод гэнай мерцьвяшчай цішы, сказаў адзін кітаец другому:

— Зарубін! Пашукай сярод гэнай чырвонай падалі жывога для допыту.

— Слухаюся ваша-ство!—адказаў „кітаец" Перапеча.

І слухалі салдаты і Йй-Сю, і Люі-Чэ, і Цін-Хо,—і ні слова не разумелі...

Ішоў сярод трупаў Зарубін.

Супыняўся.

Нагою пераварачваў трупы.

Углядаўся.

Жывых ня было...

— Гэтая чырвоная падаль жывою ня дасца!—сказаў Зарубін...

Але вось...

Нага Зарубіна перавярнула яшчэ аднаго.

І вочы таго балюча адчыніліся.

І горда, у далёкае неба, з параненых грудзей яго, глядзеў ордэн чырвонага сьцягу.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

ХАЛОДНЫ вецер Сунгары асьвяжаюча біў яго ў твар і ён пачаў ажываць. Але як толькі ён паварушыўся, каб аглядзецца дзе ён, над ім схіліўся твар Перапечы.

— Куды прадзьвігалася твая часьць?—запытаўся Перапеча.

— Ня будзеш адказваць, прыстрэлім як сабаку!—дадаў Зарубін.

Той, да каго зварочваліся, абвёў вачыма навакол.

Цяпер толькі ён зразумеў, што ён знаходзіцца на палубе кітайскага вайсковага кацера.

За сьпінамі афіцэраў стаялі кітайскія салдаты і напружана слухалі гэную гутарку.

Яны, кітайскія салдаты, не разумелі слоў расійскае гутаркі, але сутнасьць яе яны ўяўлялі.

Той, да каго зварочваліся, ведаў, што калі ён будзе маўчаць яго чакае сьмерць.

... Але ён ведаў, што ён баец адзінай у сьвеце Чырвонай арміі.

... Але ён ведаў, што на яго вачыма кітайскіх салдат—глядзяць кітайскія рабочыя і сяляне.

І ён маўчаў.

І разумелі гэтае маўчаньне кітайскія салдаты.

Тады, заўважыўшы на яго акрываўленай шынэльцы чырвоны сьцяг, Зарубін сударжна ўшчарэпіўся за яго,

садраў,

кінуў на палубу

і наступіў на яго нагою.

Гонар байца чырвонасьцяжніка быў задзеты, і тады, сабраўшы апошнія сілы, баец павярнуўся на палубе і сільным рыўком, ухапіўшы за нагу афіцэра, паваліў яго на палубу, вырваў з-пад нагі яго чырвоны сьцяг і канвульсійй зжатых пальцаў сьціснуў яго глотку.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

АФІЦЭРЫ яго расстралялі...

Але Йй-Сю, і Люі-Чэ, і Цін-Хо крыкнулі яму ў часе расстрэлу:

— Твой, краснаармеец, маладзец... Наш твой не страляе!

## II

НОЧ была дажджлівай, пахмурай і цёмнай.

У гэткую ноч у прыфрантовай зоне трэба глядзець і слухаць пільна...

На адным з берагоў пагранічнай ракі Сунгары ціха скальзнуў у ваду човен з некалькімі людзьмі, якія ні адным словам не парушылі начной цемры.



Човен ціха бясшумна скальзіў па шоўкавых хвалях Сунгары, і мабыць уключыны чоўна былі чым-та перавязаны, бо ніякага скрыпу ад іх ня было чутна.

Пільна ўглядаліся людзі ў цемру другога берагу Сунгары.

Крыху падаўшыся за сярэдзіну ракі, човен зусім супыніўся.

Нейкі юнак ціха скінуў з сябе вопратку перавязаўся вяроўкаю і з чоўна бясшумна скальзнуў у ваду Сунгары.

Ціхімі, але сільнымі рухамі, ён плыў да другога берагу.

З кожнай хвілінай ён усё пільней углядаўся і прыслухоўваўся да таго невядомага, што гатова было яго спаткаць на другім беразе.

Але там на другім беразе было так ціха, што здавалася нішто жывое там ня існуе.

Бясшумна ўскарабкаўшыся на бераг, юнак, не падымаючыся на ногі, з надзвычайнаю асьцярогаю папоўз на жываце некуды ў цемру чужога берагу.

Відаць, начны шлях быў добра вывучаны юнаком, бо, ня гледзячы на цемру, ён, крыху прапоўзшы проста наперад, зьвярнуў направа і яшчэ асьцярожней папоўз далей.

---

З добра ўмацаванага бэлькамі, зямлёй, цэмантам кітайскага бліндажа вышлі два расійскія афіцэры-белагвардзейцы.

Гэты важны ў стратэгічных адносінах вучастак Сунгары быў даручаны ахове белагвардзейцаў.

Пільна ўглядваючыся ў другі бераг Сунгары, яны навобмацак зрабілі некалькі крокаў наперад.

— Ну і ноч,—сказаў адзін з іх другому,—хоць вока выкалі, нічога не заўважыш...

— Палкоўнік праў,—адказаў другі, — толькі ў гэткую ноч і плыць у разьведку.

Але не пасьпеў яшчэ другі афіцэр дакончыць свайго сказу, як першы ўхапіўшы яго за локаць трывожна сказаў:

— Алесь. За намі нехта паўзе...

— Глупства,—адказаў другі.—Гэта—нэрвы...

Але, каб упэўніцца... ён, абярнуўшыся назад і закрываючы сабою сьвятло, запаліў ліхтарык.

Афіцэры ўздрогнулі.

Перад імі, у сьвятле ліхтарыка ляжаў голы чалавек. Вочы яго былі выкалаты і замест іх тырчэлі баявыя патроны. Вушы і нос былі абрубляны. На грудзёх была выразана вялікая зорка. Галава прабіта штыхамі. Сьвет ліхтарыка пагас і адзін з афіцэраў сказаў другому.

— Гэта той самы чырвоны дазорны, якога мы ўчора зьнялі з таго берагу. Але ён наўрад каб папоўз...

— Так... Глупства... Нэрвы... —згадзіўся другі.

І дзьве чорныя цені навобмацак пасунуліся далей па беразе ў дажджлівую цемру.

Бязупынна плёскаў ад вады Сунгары дождж, заглушаючы ўсё тое, што адбывалася ў гэтую ноч.

Ніклі словы, заглушоныя дажджом, і толькі, калі адплываў човен з двума афіцэрамі, да берагу данёсься іх ціхі шопат:

... А дваццаць пятага трыма колёнамі ідзем у наступ на Чыту...

Затым да берагу не далецела ні слова.

— Мне зноў здалося, што нехта плыве за кармою, — ціха прашаптаў у чоўне адзін афіцэр другому.

— Глупства... Нэрвы... Цяпер трэба глядзець не на свой бераг, а ўперад на чужы.

І абодва афіцэры падаліся ўперад на нос чоўна, пільна ўслухоўваючыся ў цемру чужога берагу.

---

Між тым у першым чоўне, які супыніўся ля аднаго з берагоў Сунгары, людзі, хваляваліся.

Хвілінамі з гэтага чоўна даносіўся ціхі шопат і тут-жа тануў у глыбокіх водах Сунгары.

— Стрэлаў ня было чутна, значыцца нічога яшчэ і ня здарылася,—гаварыў адзін голас.

— Пасьпеў-бы толькі дабегчы да вяроўкі, а там у гэткай цемры шукай гэную шчэпку ў моры... Каб не вяроўка і сам не знайшоў-бы.

— Заўчора таксама чакалі, чакалі,—раптам выплыў, трымаючыся за вяроўку, ля самага чоўна. Цягнеце, кажа, хлопцы, вяроўку.

Пацягнулі. Цяжка. Аддзяльком пытаецца:

— Ці ня самаго ліня ўкруціў вяроўкаю.

— Не,—кажа.

Выцягнулі. Глядзім...

Але не пасьпеў яшчэ гэты шопат дакончыць заўчарашнюю гісторыю, як ля чоўна раздаўся ціхі плёск і, трымаючыся за вяроўку, на карму чоўна ўскочыў выплыўшы некаторы час таму назад адгэтуль юнак.

— Хутчэй да берагу,—загадаў ён.

Бясшумна апусьціліся ў ваду вёслы і разразаючы грудзьмі шаўковы воды Сунгары човен пашоў да берагу.

---



Ціха плыў да савецкіх берагоў кітайскі човен.

Пільна ўглядаліся белагвардзейцы ў начную ціш савецкага берагу.

... І раптам павольна пачаў паварачваць човен белагвардзейцаў кармой да савецкага берагу.

— Што здарылася? Трывожна запыталіся афіцэры адзін у аднаго.

І не пасьпелі яны адказаць друг другу, як човен, падганяны нейкай дзікай сілай, бурна разразаючы хвалі Сунгары пашоў, незалежна ад волі афіцэраў, кармою ўперад на савецкі бераг.

Яшчэ праз хвіліну човен ударыўся аб бераг і стаў.

На хвіліну апешыўшыя афіцэры кінуліся з ораунінгамі да кармы.

— Нехта прывязаў да кармы вяроўку,—прашаптаў адзін з іх другому.

Але было ўжо позна.

Яшчэ праз хвіліну човен ударыўся аб бераг і стаў.

І тут ціха, але чотка раздаўся голас з савецкай зямлі.

— Вылазьце, гаспада белагвардзейцы... Прыехалі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніцою камдзіў перадаваў у штаб Асобай Далёка-Усходняй арміі.

— Допыт двух палонных белагвардзейскіх афіцэраў пацьвярджае аб тым, што кітайцы рыхтуюць на 25 агульны наступ на нас, з канечнай мэтаю захапіць Чыту.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

17-га пачаўся наш наступ, а 2-га кітайцы былі разьбіты, генэрал Лян узяты ў палон, кітайская флётылія на Сунгары зьнішчана...

---



# РЭМОНТ

Калі
зрушыцца ў цяглiцах плаўны рытм,
Калі чалавек расшрубуе нэрвы—
з пуцёўкай Цустраху—
сонца-Крым—
выходзіць цягнік у адлегласьць шчэрыцца.

А калі трактар
араў,
касіў,
а потым круціў
паравую малатарню,—
Дайце-ж і трактару новых сіл,
каб ён і на лета
вышаў ударнікам.
Кожную гайку і шасьцярню
здымі.
агледзь,
назубі нарэзы,
Каб сотні гектараў ён скалынуў,
і каб пераможна сьпявала жалеза,
Бо калі блісьне вясны зара
і сонца задыміцца ў полі росным:
трэба сеяць,
трэба араць!—
правіць машыну вясною позна!
Трэба, каб сталі ў сталёвы шар
трактар,
плуг,
барана
і трыер,
Каб мы спаткалі вясны прыпар
заўжды гатовыя і маладыя.
Кожная комуна,
кожны колгас,
рэмонтнымі агнямі павінны іскрыцца,
Каб потым сказаць,
што ваша вясна
праведзена па-бальшавіцку!

Максім Лужанін.

# ДЗЕЦЯМ УСЁ

Ленін казаў: „Рэволюцыя—не рэволюцыя, калі яна ня выказвае найвялікшае ўвагі да дзяцей. Яна—тая будучыня, у імя якой робіцца рэволюцыя..“ І яшчэ сказаў Ленін: „Рукамі маладых падрастаючых пакаленьняў будзе скончана будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне“.

Савецкая ўлада робіць усё, што дазваляюць ёй матэрыяльныя сродкі, для палепшаньня ўмоў жыцьця нашых дзяцей. Мы пакрылі ўвесь Савецкі Саюз дзесяткамі тысяч ясьляў, дзіцячых дамоў, садоў, пляцовак, дзіцячых сталовак, консультацый, клінік, амбуляторый. Мы сёлета правялі спэцыяльны дашкольны паход, каб яшчэ больш пашырыць і павялічыць сетку культурных установ для абслугоўваньня дзяцей. Нашыя дашкольныя ўстановы прыстасавалі час сваёй работы гэтак, каб кожная работніца і сялянка магла ў любую гадзіну зьвярнуцца туды за дапамогай для свайго дзіцяці.

Пераважываючы некаторыя перашкоды харчовага парадку, нашы органы забесьпячэньня ўвялі спэцыяльныя дзіцячыя пайкі. Для дзяцей-школьнікаў спэцыяльна броніруецца фонд абутку і адзеньня. Усе гэтыя мерапрыемствы нашае савецкае дзяржавы маюць асноўнай сваёй мэтай спрыяць здароваму разьвіцьцю маладога падрастаючага пакаленьня.

Нам—клясе, якой належыць будучыня, патрэбны фізычна разьвітыя людзі. Уся сыстэма нашага выхаваньня, пачынаючы ад ясьляў і канчаючы унівэрсытэтамі, накіравана ў бок стварэньня здаровых умоў жыцьця і росту для нашых дзяцей і юнацтва.

Нашы дзеці ўжо зараз зьяўляюцца актыўнымі будаўнікамі соцыялізму. Трохмільённая піонэрская організацыя праводзіць вялізарную практычную работу. Характарныя лічбы: піонэры Гомельшчыны завербавалі 1.260 рабочых ва ўдарныя брыгады і законтрактавалі да канца пяцігодкі 2.317 чалавек, сабралі 1.425 вытворчых прапаноў і 5.900 руб. на абарону краіны. Толькі адна Маскоўская вобласьць паслала ў колгасы 2.000 радыёпрыёмнікаў, зробленых дзецьмі. Сіламі піонэраў ліквідавана няпісьменнасьць 1.500 тыс. чалавек. У Сакольніках піонэры сабралі 270 тыс. руб. у фонд політэхнізацыі. У Шахцінскай акрузе піонэры забілі 577.756 суслакоў і мышэй.

Цяжка пералічыць усю грамадзка-карысную работу, якую праводзяць нашыя дзеці. І ніводная ўлада ў сьвеце ня робіць для дзяцей столькі, колькі робіць савецкая ўлада. Соцыял-фашыцкі „Форвэртс“ друкуе артыкул дырэктара унівэрсытэцкай клінікі па дзіцячых хваробах у Гэйдэльбэргу, проф. Моро. Ён піша:

„Цяперашнія жудасныя ўмовы ў Нямеччыне нагадваюць самыя жудасныя дні вайны. Усё больш часта наглядаем, што дзеці завашывелі. Бялізна на дзецях знаходзіцца ў самым жудасным стане. Дзяцей ня купаюць, бо бацькі ня маюць вугалю, каб нагрэць ваду. Дзеці не карыстаюцца наглядам установ аховы здароўя, бо ў іх няма адзеньня, каб узімку выйсьці на вуліцу. Маткі вельмі рэдка зьвяртаюцца з дзецьмі ў консультацыі, бо ў іх няма грошай на трамвай, каб прыехаць туды. Самым жудасным для сучаснага моманту зьяўляецца тое, што ўсё больш часта дзеці скардзяцца на хваробы галавы, малакроўя. І ўсё гэта—вынік голаду“.

Вось вам жудасны, непрыфарбаваны малюнак жыцьця дзяцей у капіталістычнай Нямеччыне.

Яшчэ горшыя ўмовы ў „шчасьлівай“ Амэрыцы, дзе дзесяць мільёнаў беспрацоўных літаральна паміраюць з голаду. Амэрыканскі пісьменьнік Тэодор Драйзер піша, што дактары перадаюць, што нават у выпадках сур'ёзнай хваробы ў дзяцей бацькі не выклікаюць доктара, бо ў іх няма чым заплаціць за візыт. Доктар Уайн, які загадвае публічнымі школамі Нью-Ёрку, сьцьвярджае, што ў Манхатане, дзе знаходзіцца 75.000 школьнікаў, хворых на сухоты, дзеці ўсё больш часта недаядаюць.

А ў дадатак да ўсяго гэтага, корэспондэнт парыскае газэты „Пці Парызьен“ перадае з Індо-Кітаю, дзе белыя „цывілізаваныя“ гаспадары робяць усё, што ім толькі ўздумаецца:

„Учора,—піша корэспондэнт (красавік 1930 г.),—я бачыў на рынку галодную маладую жанчыну, якая прапанавала купіць у яе дзіця за 15 франкаў (1 руб. 20 к.). Узімку на вясковых рынках цана на дзяцей зьменшылася да 5 франкаў (40 кап.)“.

Вось сапраўдны малюнак цывілізаванай Эўропы. Паміраючая кляса—буржуазія ў сваёй перадсьмяротнай сутарзе гатова на ўсё, абы адтэрмінаваць час сваёй пагібелі. Вось чаму хварэюць дзеці рабочых кварталаў Эўропы і Амэрыкі, галадуюць і выміраюць дзеці працоўных мас.

З тым большай надзеяй паглядаюць дзеці пролетараў ўсяго сьвету на нас, дзе савецкая ўлада рабіла і робіць усё, каб выгадаваць здаровае пакаленьне, здаровых змагароў і соцыялістычных будаўнікоў.



ДЗЕЦІ Ў ЯСЬЛЯХ.



# СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ



Рабочы т. Гэрман Пэтш, член Нямецкай компартыі, працуе на заводзе „Энэргія“.

Унізе: т. Іваноўскі (зав. „Полымя Рэволюцыі“); яго вынаходства дае 1800 р. эканоміі.



## ВЫКАНАЕМ ПЯЦІГОДКУ У ЧАТЫРЫ ГАДЫ!



НА канфэрэнцыі таварыства тэйлорыстых у Нью-Ерку адзін амэрыканскі профэсар вымушаны быў сказаць:

„Савецкая практыка ўпяршыню паказвае шлях, як зьнішчыць непатрэбныя страты ў прамысловасьці, якія выклікаюцца няправільнай організацыяй вытворчасьці. Паколькі капіталістычная Амэрыка ня можа ісьці па савецкім шляху, значыцца ёй прыдзецца ўступіць пануючыя вышыні Савецкаму Саюзу“.

Гэта—праўда клясавага ворага. Сотні тысяч рабочых СССР кожны дзень уносяць сотні і тысячы прапаноў у фонд соцыялістычнае скарбніцы, каб ліквідаваць непатрэбныя страты, каб паменшыць выдаткі і каб вызваленыя мільёны рублёў кінуць на будаўніцтва новых соцыялістычных волатаў — электрастанцый, заводаў, комбінатаў, соцыялістычных гарадоў. Гэтыя мільёны экономіі, памножаныя на ўзрастаючую колькасьць новых прадпрыемстваў, паскораць і дапамогуць пабудаваць фундамант соцыялістычнае экономікі ў бягучым трэцім годзе пяцігодкі.

Расту...
растуць...
Вось мы...
ў Менск...
печ для...
экономіі...
у пляцо...
На заво...

Памаг...
юць на...
працуе...
слалі да...
тэхнікі...
каб раза...
перамож...



# СКАРБНІЦА



Растуць і павялічваюцца фонды соцыялістычнае скарбніцы, растуць і павялічваюцца новыя соцыялістычныя прадпрыемствы. Вось мы маем прыклад работы заводу „Полымя рэволюцыі“ ў Менску. Рабочы тав. Іваноўскі сконструяваў перасоўную печ для награваньня заклёпак, што дае заводу ў год 1.800 р. экономіі. Рабочы тав. Юнцэвіч удасканаліў фрэзіроўку гнёздаў у пляцоўках дзесяцічных вагаў, што дало 1.460 руб. экономіі. На заводзе створана вытворча-бытавая комуна.

Памагаюць нам ня толькі свае рабочыя СССР, — прыяжджаюць на дапамогу замежныя рабочыя. На заводзе „Энэргія“ працуе рабочы—комуніст, немец, якога рабочыя Лейпцыгу паслалі да нас, каб навучыць нас лепшых вузораў замежнае тэхнікі. На дапамогу падыходзяць ужо свае трактарныя колёны, каб разам са ўсёй рабочай клясай, пад кіраўніцтвам компартыі, пераможна закончыць пляны соцыялістычнага будаўніцтва.



ВЫШЭЙ СЬЦЯГ ЛЕНІНА!



Наверсе: Вытворча-бытавая комуна заводу „Полымя Рэволюцыі“. Менск.

Унізе: Рабочы т. Юнцэвіч („Полымя Рэволюцыі“); яго вынаходзтва дае 1460 р. экономіі.



**Фашысцкая Польшча рыхтуе ваенную інтэрвэнцыю супроць СССР. — Пролетары БССР! Вышэй тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, мацней штык у мазолістых руках!**



Мятла.

КРЫВАВАЯ расправа польскага фашызму над рэволюцыйным пролетарыятам і бядняцка-серадняцкімі прыгнечанымі масамі Заходняй Беларусі прымае жудасныя памеры. Фашыцкі ўрад люта распраўляецца над працоўнымі масамі, якія даведзены да галечы і жабрацтва, якія ня хочуць паміраць з голаду, якія ня хочуць далей цярпець злыбеднага жыцьця, ня хочуць трымаць на сваім карку дармаедаў—фабрыкантаў, абшарнікаў, паліцэйскіх, а вядуць упартую, зацятую барацьбу з урадам голаду, з урадам вайны, з урадам беспрацоўя,—з фашыцкім урадам Пілсудзкага.

Супроць пролетарыяту, супроць яго авангарду—комуністычнай партыі накіраваны ўвесь паліцэйскі апарат прыгнечаньня, уціску і гвалту. У гэтай чорнай справе чынны ўдзел прымаюць беларускія нацыянал-фашысты Луцкевіч, Астроўскі ды інш.

Датэрміновае вызваленьне арыштаваных паслоў сойму, быўшых кіраўнікоў стотысячнай беларускай рабоча-сялянскай Грамады, мела таксама мэтай ашукаць пільнасьць працоўных мас. Б. Тарашкевіч—лідэр Грамады—датэрмінова вызвалены з астрогу пасьля таго, як ён праседзеў там з з пал. гады, піша ў сваёй дэкларацыі:

т. Грэцкі.





т. Бурсэвіч.

„Нас выпусьцілі не праз сымпатыю да нас, або да беларускага вызваленчага руху. Не! Выпусьцілі таму, што... фашызму трэба было стварыць для масаў падобнасьць зьмены курсу ў нацыянальнай політыцы, стварыць уражаньне, што правадыры Грамады ідуць на ўгаворы, каб дэзорыентаваць масы і сьцягнуць іх са шляху рэволюцыйнай барацьбы“.

Фашызму гэта не ўдалося. Правадыры Грамады не пайшлі на згоду з фашызмам. Шлях грамадаўцаў—шлях рэволюцыйнае барацьбы, шлях бязьлітаснага змаганьня з польскім фашызмам. З гэтага шляху яны ня сыйдуць.

— Разам з вамі працаваць, разам з вамі і ў вашых радох змагацца і дамагчыся поўнага соцыяльнага і нацыянальнага вызваленьня працоўных Заходняй Беларусі і ўсяго сьвету,—вось пра што гавораць у сваіх дэкларацыях прыехаўшыя да нас—у Савецкую Беларусь—быўшыя паслы.

т. Рак-Міхайлоўскі.





# МУЗЭЙ У ПАЛОНЕ

ЮРКА ЛЯВОННЫ

Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй на працягу апошніх год зьяўляўся адным з фартоў нацыянал-дэмакратычнай цытадэлі. Арганізаваны ў 1925 годзе з трох розных музэяў (Брадоўскага, музэю царкоўнае старыны і археолёгічнага), ён адразу-ж трапіў упалон да чужых, варожых пралетарскай навуцы людзей, махровых носьбітаў нацыянал-дэмократычнай ідэалёгіі.

З нармальнага штату ў дзевяць чалавек там ня было за пяць год ніводнага комуніста. Затое кожны з навуковых працаўнікоў мог-бы з посьпехам займаць месца „экспаната" ў тым-жа музэі. У пераважнай большасьці навуковыя працаўнікі віцебскага музэю—гэта былыя папы, або выхадцы з папоўскага асяродзішча (Шчглоў, Багародзкі), афіцэры (Дабравольскі і г. д., і г. д.) Асаблівай увагі заслугоўвае супрацоўнік Багародзкі. Аўтар „навуковага дасьледваньня" аб машчох Еўфрасіньні Полацкай, панегірыка 300-хгодзьдзю дому Раманавых, былы выкладчык духоўнай сэмінарыі, ён цяпер загадвае... антырэлігійным аддзелам музэю (!).

Ня маючы, па сутнасьці, ніводнае навуковае працы, гэтыя выпадковыя людзі ўсімі праўдамі і няпраўдамі прабіраліся ў сэкцыю навуковых работнікаў, набывалі годнасьць „незамянімых" і па-свойму кіравалі буйнейшым культурным асяродкам на Віцебшчыне.

### Пляцдарм ваяўнічых нацдэмаў.

Кіраўніцтва іх прыводзіла да таго, што музэй, ператварыўшыся ў кунсткамэру, абсалютна не нагадваў савецкую культурную ўстанову. Адарваны ад жыцьця, ён прыпадносіў наведвальнікам клясава-варожыя думкі і настроі і гістарычна-няправільныя факты.

— Наш музэй будуецца па прыкладзе іншых гарадоў,—сьцьвярджаў увесь час Багародзкі,—і паводле трэдыцыі віленскага вайсковага таварыства (?!).

— „Традыцыі" гэтыя не дазвалялі павесіць у памяшканьні музэю ніводнага партрэту правадыроў рэвалюцыі, ніводнага баявога лёзунгу ці плякату. У той-жа час і ў канцалярыі і ў астатніх пакоях красаваліся твары ідэёвых натхніцеляў і правадыроў беларускага нацыянал-дэмакратызму. Адных бюстаў Францішака Скарыны ў музэі налічваецца чатыры. Шмат разнастайных Цяпінскіх, Будных, Каліноўскіх.

На кожным кроку падкрэсьлівалася славутая, беларуская „самабытнасьць". Нязьлічаная колькасьць паясоў, вышавак, прадметаў хатняга ўжытку, бяз сыстэмы і клясыфікацыі, награмаджалася ўсюды.

Усе надпісы над дзьвярыма (паказальнікі аддзелаў) старанна выводзіліся струхнелай славянскай вязьзю. Старымі-ж літарамі часоў Скарыны, была напісана і вялікая шыльда над уваходам (цяпер, праўда, яе зьнялі...).

У аддзеле нумізматыкі добра прадстаўлены польскія і беларуска-літоўскія грошы. Затое расійскія і асабліва—савецкія захаваны так, што іх ня ўгледзіш і ў бінокль.

У аддзеле этнаграфіі вы пабачыце партрэты абшарнікаў і мяшчан, іхнае адзеньне, убраньне, рэчы побыту. І ніводнага напамінку аб жыцьці беларускага селяніна, рабочага.

У аддзеле „старая вёска"—кросенцы, рушнічкі, лапаточкі... Ні ў гэтым аддзеле, ні ў суседнім не адлюстравана новая вёска, не паказаны камуна, калгас, арцель.

Экспанаты наўмысьля выстаўляліся так, каб іх сэнс і значэньне хаваліся ад рабочага наведвальніка. Этыкетак амаль ня было, а калі і было некалькі штук, дык, напрыклад, такія:

**— „Масоны былі першымі рэвалюцыянэрамі ў Расіі".**

Спрэчная рэвалюцыйнасьць! І такое невыстарчальнае тлумачэньне—над багацейшай калекцыяй масонскіх эмблем і дакумантаў, над калекцыяй, роўнай якой няма ў Савецкім Саюзе!

Або:

**— „Шпонка ў памяць Л. М. Талстога, як рэвалюцыянэра 1917 г.".**

Як вядома, Л. М. Талстой роўна за сем год да рэвалюцыі 1917 г. памёр... Камэнтарыі—залішнія!

Замест цытат з Маркса, Энгельса, Леніна над лесьвіцай зьзяла адно „откровение".

„Пазнай мінулае, каб будаваць будучыню".

Як спрыялі „пазнаваньню мінулага" былыя кіраўнікі і цяперашнія супрацоўнікі музэю—відавочна з прыведзеных вышэй прыкладаў.

Недарма на прэзыдыуме Віцебскага гарадзкога савету дырэктар Васілевіч кінуў заўвагу:

— Рабочыя нічога не разумеюць у музэйных справах... Навошта з імі лічыцца?

### Экспанацыя рухлядзі.

Бяз малага ўся бібліятэка музэю складаецца з царкоўных кніг. Да царкоўных рэчаў, гісторыі царквы, „жыцей сьвятых" у музэя заўсёды была асаблівая прагнасьць.

Так, яшчэ зусім нядаўна аддалі некалькі сот рублёў за рэстаўрацыю аднае „эвангельскае" карціны. Ня гледзячы на тое, што грошай—у абрэз і нават няма за што наняць мастака для афармленьня куткоў і лёзунгаў.

Гадамі старанна зьбіраліся царскія партрэты (іх каля 500), партрэты афіцэраў, генэралаў, біскупаў.

Усімі мерамі і сродкамі выстаўляюцца на паказ „навуковыя працы" былога члена Дзяржаўнай Думы ад Віцебскай губэрні чорнасоценца Сапуновага. Невядома дзеля чаго зьбіраюцца бяз меры і бяз ліку чыгунныя ядры і бомбы XVII-XVIII вякоў. У адным з пакояў цэлая сьцяна занята досыць аднастайнымі ўзорамі беларускай кахлі.

Вельмі дакладна прадстаўлены ордэны, адзнакі і жэтоны дарэвалюцыйных часоў і замежныя,—у той-жа час савецкіх зусім няма.

Існаваў „аддзел прывілейных станаў" (зараз—„аддзел прыкладнога мастацтва"). Тут зьбіраліся найлепшыя творы разьбярства і дойлідзтва. Увесь аддзел паказваўся у такім разрэзэ

— Вось—панская культура... Глядзеце, моў, як раскошна жылі калісьці. Вось, што значыць багацьце!

І гаварылі надпісы: „саксонскі фарфор“, „сэўрскі фарфор“, „інкрустацыя на слановай косьці“, „інкрустацыя на чорным дрэве“... І—ні слова аб тых, хто ствараў гэтыя цудоўныя рэчы, ні слова аб клясавым зьмесьце гэтае вытворчасьці, ні слова, нарэшце, аб нашым сучасным мастацтве, аб савецкім фарфоры і дрэве.

У аддзеле „чыстага мастацтва“—дрэнна выкананыя копіі Рафаэля, творы некаторых польскіх мастакоў. Скрозь—„німфы“ ў пікантных позах, жаночыя галоўкі, бюсты.

У аддзеле зусім не адлюстравана жыцьцё прамысловага Віцебску; абсалютна няма вытворчай тэматыкі. Да рэчы, ня гледзячы на тое, што менавіта ў Віцебску знаходзіцца Беларускі Мастацкі Тэхнікум, прадукцыя апошняга амаль „не удостоена“ месца ў музэі.

**Бунт мерцьвякоў.**

1-га жніўня 1930 г. дырэктар Васілевіч „пакінуў свой пост“. І толькі 15-га кастрычніка Наркамасьветы БССР надумаўся прызначыць новага дырэктара—т. Шчуцкага.

Варта адзначыць, што Наркамасьветы і ў апошнія месяцы ўсё-такі ніяк ня мог адмовіцца ад „надзвычайна каштоўнага спэцыяліста“.

Напомнім—таго спэцыяліста, пры гаспадараньні якога ў музэі не вялося аніякае навукова-дасьледчае работы (за пяць год не напісана ні аднае брашуры), музэй не папулярызаваўся, а ўнутры яго бязьлітасна заціскалася самакрытыка, не раджалася сацспаборніцтва і мерлі мухі ў атмасфэры коснасьці і руціны.

Наркамасьветы і на сёнешні дзень ня цікавіцца становішчам музэю. За тры месяцы работы новага, маладога і энэргічнага загадчыка, ад яго не паступіла ніводнага запытаньня, распараджэньня, парады, ня кажучы ўжо аб прыезьдзе інспэктара НКА.

Між тым, новага загадчыка-партыйца „жывыя муміі“ з музэю літ ральна бяруць у штыхі. Кожнае яго пачынаньне спатыкаецца калючым дротам варожасьці, насьмешкі і супраціўленьня.

Калі тав. Шчуцкі паставіў пытаньне аб разгрузцы складаў ад хламу, у прыватнасьці аб перадачы лішніх званоў у фонд індустрыялізацыі краіны, навуковыя працаўнікі ледзь не страцілі прытомнасьць:



— Ах, гэта-ж каштоўнасьць! Нельга-ж разбазарваць музэйныя дзіковіны. Якое барбарства!..

Усякія зьмены—хоць-бы ў экспазыцыі антырэлігійнага аддзелу выклікае ўпартыя спрэчкі, абурэньне і „бунт“.

Яно зразумела: яшчэ „блажэннае памяці“ дырэктар Шчаглоў пакінуў у спадчыну гэтым мерцьвякам ад навукі „напрамак“:

— Як дзяды, так і мы... Ужо як-небудзь па-старынцы працаваць будзем!



Па-старынцы і працуюць. Квітнее шкурніцтва, рвацтва.

Праўда, цяпер ля штурвала—другі, непадобны для іх чалавек, і карабель volens-nolens рашуча зьмяняе свой курс. І было-б добра, каб на яго палубе ня ўтрымаўся баляст з нацыянал-дэмакратаў, і схалястыкаў!

**Поўны ход наперад!**

Якія задачы стаяць зараз перад віцебскім культурна-гістарычным музэем?

Трэба надаць яму палітычны, клясава-выразны выгляд; трэба каб гіпсавую маску зьмяніў жывы твар; трэба карэнным чынам перабудаваць усю работу музэю!

Нельга лічыць дапушчальным становішча, пры якім шырокія колы мясцовых рабочых ня ведаюць нават пра існаваньне свайго музэю. Трэба павесьці масавую растлумачальную работу на прадпрыемствах, прапагандуючы задачы гэтага асяродку ведаў і сацыялістычнай культуры, дамагаючыся стварэньня рабочага кантролю над ім.

Вялікую ролю адыграе тут шэфства аднаго з віцебскіх заводаў над музэем, якое праектуецца зараз.

Трэба ўжыць усе захады да таго, каб рост экспанатаў музэю адбываўся, галоўным чынам, за кошт сучасных рэчаў. У прыватнасьці, першачарговая задача — набыць экспанаты па калгасным будаўніцтве Віцебшчыны. Музэй павінен экспазыцыяй сваіх каштоўнасьцяй спрыяць палітэхнізацыі школы, найлепш арыентаваць у іх экскурсантаў наогул.

Намаганьнямі ўсяе савецкае грамадзкасьці паставім віцебскі музэй на службу пасьпяховаму сацыялістычнаму будаўніцтву!

**Юрка Лявонны.**

# Арлы, далібог, арлы!

Соцспаборніцтва...

Ударніцтва...

Пяцігодка ў чатыры гады...

Тэмпы...

Культурная рэволюцыя...

І...

Трое актораў Беларускага Дзяржаўнага тэатру вырашаюць на сходзе наступнае, пільна назрэўшае для БДТІ пытаньне:

1. Які бог—ці расійскі, ці яўрэйскі—справядлівейшы?

2. Чаму ня друкуюць газэты таго, што яўрэйская маца пячэцца на хрысьціянскай крыві?

Гора—горам.

Сьмех—сьмехам.

Факт—фактам.

Гэта факт.

І, на жаль, гэты вясёлы дыспут паміж акторамі БДТІ занадта ціха адзначаны ў нашай прэсе.

Акторы пісалі, прэса спрачалася.

Мясцком пісаў, прэса маўчала.

Маўляў—слова актораў срэбра, маўчаньне мясцкому—золата...

Няхай, маўляў, самі высунулі пытаньне, самі і вырашаюць.

Ключы, маўляў, да вырашэньня гэтага філёзофскага пытаньня не знаходзяцца ў мясцкоме 1-га Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

Паспрабуем мы адказаць тром акторам БДТІ на гэныя конфідэнцыяльныя пытаньні.

1. Які бог—ці расійскі, ці яўрэйскі—справядлівейшы?

Абодвы справядлівейшыя.

Бо раз яны на трынаццатым годзе Кастрычніцкай рэволюцыі клапоцяцца аб гэткіх акторах, то гэта толькі гэныя два багі ў сілах.—Магамэт наўрад каб утрымаў-бы іх у штаце.

2. Чаму савецкія газэты ня друкуюць таго, што яўрэйская маца пячэцца на хрысьціянскай крыві?

Ёсьць і шмат прац па гэтым пытаньні членаў „Союза русского народа“ (моцна пастараліся па гэтай справе людзі): Маркаў 2, Пурышкевіч, Пранайціс,—але іх чамусьці ня друкуюць...

Мабыць, ня хочуць друкаваць?

Зажымаюць Маркавых і другіх!

Вось, значыць, якія пільна назрэўшыя пытаньні вырашалі ня гэтак даўно на адным са сходаў трое актораў БДТІ.

Але трэба са ўсёй шчырасьцю адзначыць, што ня ўсе акторы гэткія.

Некаторыя, кажуць, на гэтым дыспуце стаялі і дзівіліся са сваіх колегаў:

— Ай, якая эрудыцыя,—дзівіліся.

— Як разважаюць, як думаюць!..

— Арлы, далібог, арлы!

І толькі адна „далжасная“ асоба, кажуць, прыкрыкнула:

— Які атэізм! —І... перахрысьціўшыся, адышла ў бок.

Гора—горам.

Сьмех—сьмехам.

Факт—фактам.

Гэта ўсё факты...

. . . . . . . . . . . . . . . .

На наступных сходах БДТІ я рэкомэндаваў-бы для часткі глыбокадумных акторау заняцца вырашэньнем наступных пытаньняў:

1. Як маецца Люцыпар?

2. Хто падаграваае патэльню для майго пакойнага сябра Кірылоўскага?

3. Што на даным этапе робіць Ефрасенія Полацкая?

...Усе гэтыя пытаньні надзвычайна пільныя і вельмі патрэбныя ў рэконструкцыйны пэрыод...

**Алёша.**

# УСТАЮЦЬ ГАРАДЫ

1.

Устаюць гарады,  
Устаюць гарады  
праз ноч і агні вечароў.  
Над краем ад комінаў цягнецца дым  
і зарыва льлецца, як кроў.

З усходу на захад бягуць цягнікі  
спакою ім ноччу няма.  
Вядуць пераклічку над краем гудкі,  
ўзьнімаюць халодны туман.

Там вуліцы ўзрыты,  
там звоніць мэталь,  
бліщчаць у тумане агні.  
Там за нач узносіцца ўгору квартал  
падмуркамі камяніц.

Там сплаўлены людзі адзінствам падзей,  
іх позіркі гострыя, як нож.  
Над імі ўдарны ўзьнімаецца дзень  
зьмяняючы ўдарную ноч.

Нічога, што хлюпае стоптаны бот,  
што лезе кашуля з плеч.  
Цягліцы рыпяць ад напружных работ,  
узносіцца молат, як меч.

Над імі халодныя зоры гараць  
ўядаецца ночная золь.  
Ім можа прыносіць імглістая рань  
сумненьні й хвілінны боль.

Але перад тварам шырокіх падзей  
узьнімаюцца, рушаць ізноў...  
І зноўку ударны ўзьнімаецца дзень,  
зьмяняючы ўдарную ноч.

Устаюць гарады,  
ўстаюць гарады  
праз ноч і агні вечароў.  
Над краем ад комінаў цягнецца дым  
і зарыва льлецца, як кроў.

2

Усю ноч на вагзале стаяў эшалён  
пляцовак, таварных вагонаў.  
А пятай раніцу зрушыўся ён  
у далеч на сінія гоні.

Насустрач пабеглі бярозы, гаі  
і вёскі ў тумане і сіні.  
Нязвычная ціша ўзьняла страі  
і пушчы, і соннай даліны.

Круціліся колы пад сонцам зары,  
цягнік парываўся ў далечынь.  
На шэрых пляцоўках яго трактары  
замарылі раптам аб нечым.

Ім выпаў з заводу ня блізенькі шлях  
па сіняй жытнёвай краіне.  
Іх чорная недзе чакае зямля  
з галоднай тугой па машыне.

Дзе шумны чарнобыль на межы прылёг  
дзе вецер хістаецца, дрэмле—  
сустрэнуць іх недзе ў стэпах ці палёх  
колгасаў шырокія землі.

Застылі у марах нямых трактары,  
узьнялі жалеўныя плечы.  
І з грукатам, гулам, пад сонцам зары  
цягнік праймчаўся ў далечынь.

**Зьмітрок Астапенка.**



## Унівэрсытэцкі гарадок

Самае цікавае ў гэтым гарадку—людзі.

Людзі ў наш час зусім іншыя, чым раней, і стары аршын, якім мерылі раней, мусіць, ужо здадзены ў архіў палаты мер і вагаў.

Вось прайдзецеся па шматлікіх калідорах новага унівэрсытэцкага гарадка ў Менску. Спрабуйце знайсьці тут аднаго чалавека, хоць крыху падобнага на знаёмага вам „белападкладачніка“. Ня шукайце. Ня знойдзеце.

Прышоў новы студэнт—ад варштату і плуга. Ён ня прышоў вучыцца. Яго паслалі. Яго паслалі дэлегатам у унівэрсытэт рабочыя заводу ці калгасу, дзе ён працаваў.



Рабочыя, якія паслалі яго вучыцца, патурбаваліся ня толькі аб тым. каб даць яму на дарогу, але і пабудавалі такі унівэрсытэцкі гарадок, абсталявалі яго гэткімі навуковымі прыладамі, каб ён сапраўды аўладаў цьвярдынямі навукі.

Пролетарская дзяржава пабудавала ў Менску такі унівэрсытэт, што наўрад ці хоць адна з нашых суседніх фашыцкіх дзяржаў можа пахваліцца, што яна пабудавала ў сябе гэткі культурны цэнтр.

Перамагаючы ўсе перашкоды, Савецкая Беларусь стварыла для рабочых і сялян гэткую ўстанову, у якой выхоўваюцца патрэбныя нам пролетарскія кадры для соцыялістычнага будаўніцтва.

На здымках: наверсе—скончаны пабудовай галоўны корпус унівэрсытэцкага гарадка; у сярэдзіне—студэнты працуюць у габінэтах з найноўшымі прыладамі; унізе—зоолёгічны музэй БДУ.



# ДЫ Ю Н Г Г А Р Д

**Нарыс Л. Бэрнара**

Вы казалі, што вас цікавіць нашае будзёнае, штод
жыццё, будзёная рамантыка нямецкай рэволюцыі. Калі
На Бюлоўпляце (пляц Бюлова) знаходзіцца вялізарны
павярховы будынак—„Дом Карла Лібкнэхта“. Тут знах
рэдакцыя газэты „Ротэ Фанэ“, ЦК Компартыі, ЦК Ком
і Бэрлін-Брандэбурскія акруговыя камітэты КПГ і КСМ
Зьлева, ля ўваходу—раздача літаратуры. Ідуць рабочы
тыйцы, прышоўшыя за матэрыялам і для атрыманьня зад
Часам тут можна ўбачыць фізыономію агента паліцейск
раўніцтва. Яны шукаюць якую-небудзь забароненую бр
У большасьці выпадкаў дарэмна.
Кожны, хто хоча трапіць у памяшканьне партыі, сустр
перш за ўсё з тоўстым Гюго. Ніхто ня ўвойдзе сюды не
заўшы яму пасьведчаньне. Калі паліцыя прыходзіць на
ён падымае трывогу. Да нашых таварышоў ён адносі
сяброўску, што ня можна сказаць пра сабаку Бэлу, якая т
карауліць уваход. Рэдка хто адважыцца да яе блізка пад
На трэцім паверсе ў двух маленькіх пакоях знаходзіцц
лінскі акружком комсамолу. Пакоі поўныя людзьмі, аж
павярнуцца. Гэльмут—адзіны сакратар АК і стэнаграфіс
нятыя па горла. Кур'еры з раёнаў (іх у Бэрліне 20) прых
за поштай. У вялікай шафе адведзены скрынкі для кожн
ёну. Сёньня кур'еры павінны ўзяць таксама літаратуру
каты. Раптам звоніць тэлефон. Палітычны кіраўнік трэця
ёну патрабуе, каб абавязкова быў прадстаўнік АК на бліж
пасяджэньня Райкому. Гэта запатрабаваньне заносіцца на
ку. Не пасьпелі яшчэ пакласьці аловак, як зноў звоні
лефон. Дванаццаты раён патрабуе для ячэйкі Румерсбу
кладчыка на тэму: „Пяцігодка СССР“. Организацыйныя кі
першага і пятага раёну—беспрацоўныя таварышы. І там
так рана яны прышлі ў АК. Яны лаюцца, чаму іхняму
далі гэтак мала мандатаў на акруговую конфэрэнцыю.
Кіраўнік агітпропу сьпяшае ў рататарскую, якая знах
нагары, каб паскорыць друкаваньне матэрыялу для
кампаніі. Ратата шуміць, цяжка сядзець, але затое мат
будуць заўтра гатовы. Гэта значыць, што раёны атр
яго за чатыры тыдні да пачатку кампаніі. Для гэтага
працаваць. Раптам агітпроп прыбягае ўніз:
— Хлопцы, колькі часу? Палова на сёмую? Трэба
ехаць у Потсдам на сход ячэйкі, туды паўтары гадзіны е
У дваццаці раёнах адначасова адбываюцца пасяджэньн
ных камітэтаў, сходы ячэек. Нашы прамоўцы выступа
сходах праціўнікаў. Бэрлінская комуністычная моладзь
на работу.

* * *

Станцыя падземнай чыгункі Бэргстрасе. Мы ў Нэйке
буйнейшым рабочым цэнтру Бэрліну. На вуліцах шма
чых, дробных буржуа, шмат у каго на грудзёх чырвоная
Чырвоныя франтавікі, моладзь у форме Юнг-штурма н
вуліцам асобны адбітак. Недарма Нэйкельн завуць „М
кай Масквой“. На аднэй з гэтых бакавых вуліц знах
раённае бюро компартыі; яно займае гандлёвае памяшка
вітрынай, два пакоі і кухня. На кухні—сакратарыят ком
У парадку дню падрыхтоўка да МЮД'у. Тут і курсы а
імпэрыялізму, ваеннай небясьпекі, гісторыі, пролетарскага
кага руху. Будзе організавана выстаўка, якая павінна
паказаць супроць каго рыхтуецца будучая вайна; у буйн
памяшканьні Нэйкельна, у якую ўваходзіць тры тысячы
век, будзе організаваны мітынг. Райком выдае лістоўкі, п
ЦК выдае фарбаваны плякат.
Усе прысутныя імкнуцца дапоўніць плян сьвяткаваньн
і організацыя беспартыйнай моладзі, організацыя сьвята
прадпрыемствах, дзе няма комсамольскіх ячэек. Кіраўнік
вай камісіі патрабуе, каб абавязкова была організавана
цыйная паездка ў вёску.
Групавы сход—вечарына, як звычайна, адбудзецца у
вер. Большасьць ячэек наладжваюць свае вечарыны
джэньні ў брудных пакоях пры піўных. Нават калі там
ня купіш—усёроўна трэба заплаціць за пакой адну—дзьве
У памяшканьне сьпяшаецца комсамолка Люсі і яшчэ адзі
рыш з рознымі пакункамі. Пакуль хлопцы прыдуць, яны н
паклапаціцца пра аздабленьне пакою. Змагаючыся за ко
маладога рабочага, мы, натуральна, ужываем усе захад
таго, каб ён у нас сябе добра адчуваў. Гэтаму спрые
аздобленае памяшканьне. На маленькі стол ставіцца к
засланае чырвонай матэрыяй, на ёй мы ўстанаўліваем
Леніна і потрэты Карла і Розы з боку. Вывешваем чырвоны

ячэйкі. А восьмай гадзіне зьбіраецца чалавек пяцьдзесят. Члены бюро ячэйкі задаволены: сярод прышоўшых—дзесяць госьцяў.

Вечарына пачынаецца песьняй. Ліка, якая добра дэклямуе, чытае верш Вайскопфа: „Вогненыя наезьнікі Петраграду". Затым ячэйковы оркестр з двух гітар, аднэй мандаліны і аднэй скрыпкі іграе „Марш Будзёнага". Пасьля ідзе даклад з сьветавымі малюнкамі: „Працоўная моладзь Савецкага Саюзу". Семдзесят малюнкаў паказваюць жыцьцё і работу комсамолу і савецкай моладзі. Прамоўца на яскравых прыкладах выяўляе розьніцу між капіталістычнай Нямеччынай і соцыялістычным Савецкім Саюзам. Франц, політкіраўнік ячэйкі, раптам паведамляе:

— Атрыман ліст ад савецкай комсамольскай ячэйкі.

Для нас гэта—вялікая нечаканасьць. Савецкія комсамольцы апавядаюць аб сваім жыцьці, аб тым, колькі яны зарабляюць, як адпачываюць, гуляюць, аб культпаходзе і г. д. Нехта гаворыць:

— Пакажы ліст, можа яго напісаў хто-небудзь з нашых?

З задавальненьнем разглядаюць расійскі тэкст, хоць ніхто нічога ў ім не разумее. Подпісы таксама прызнаюцца правільнымі.

* * *

Поўнач. На вуліцах народу мала. Вось ідзе хлопец з дзяўчынай. Недалёка ад іх пара маладых рабочых: адзін нясе вядро, а другі паперу. Хлопец з дзяўчынай часта спыняюцца. Мала чым моладзь займаецца. А ў гэты час другі-б заўважыў, як за іх плячыма хлопцы клеюць плакаты. Маладыя вышлі не для пацалункаў, а для таго, каб дапамагчы таварышам працаваць.

Расклейка—свайго роду мастацтва. Клеіць плякаты дзе патрапіцца справа ня хітрая, гэта можа кожны. Але вось знайдзі такія мясьціны, якія-б адразу кінуліся ў вочы і прытым, каб паліцэйскія не маглі адразу садраць.

* * *

Штодзень прачынаешся а шостай гадзіне. Трэба на работу. Як добра было-б крыху пазьней паспаць у нядзелю. Але на сёньня прызначаны агітацыйны абход двароў і кватэр. Ужо а дзесятай гадзіне памяшканьне ячэйкі поўна народу. Іх падзяляюць на тры групы. Трэба агітаваць, прадаць кнігі, сабраць грошы. Заключаем паміж сабой дагаворы на спаборніцтва, хто больш зьбярэ, хто больш пасьпее.

Работу разгортваем організавана. Адзін таварыш застаецца ля варотаў, каб папярэдзіць як прыдзе паліцыя. Два хлопцы бяруць часопісі, сумку для грошай, а таксама білеты на вечарыну. Па свайму пачыну рабочыя самі ня пойдуць на нашу вечарыну, таму мы ідзем да іх на кватэры, каб іх запрашаць.

Пяць, дзесяць заходзяць у двор. Сігнал трубы і песьня прыцягваюць усеагульную ўвагу. Маладыя і старыя—усе хочуць ведаць, чаго мы прышлі. Наш таварыш выступае з кароткай прамовай. Мы прамоўцы не такія ўжо вялікія, і таму адразу пушчаем у ход грамафон з прамовай правадыра партыі таварыша Тэльмана. Затым новую песьню і ідзем на наступны двор.

Між тым нашыя таварышы ідуць па кватэрах. Гэта надзвычайна цікава. Часам дзьверы крыху адчыняюцца: што, комуністы? І дзьверы адразу зачыняюцца. Часта на наш званок прыбягае гаспадыня:

— Комуністы? Не, мы з вамі нічога супольнага ня хочам мець.

Мы ўжо зьбіраемся ісьці, але раптам дзьверы зноў адчыняюцца. На гэты раз выходзіць муж. Ён нам гаворыць:

— Ведаеце, жонка мая баіцца, што я страчу работу, калі буду хадзіць з комуністамі, але ў вашу сумку я колькі-небудзь грошай пакладу.

Часта жыхары надзвычайна ветліва нас сустракаюць: купляюць газэты, літаратуру, кідаюць грошы ў сумку, купляюць білеты, абяцаюць прыйсьці на нашу вечарыну.

Галодныя і стомленыя варочаемся дамоў. Сёньня багата працавалі. Мы сабралі пяцьдзесят марак, прадалі 41 запрашальны білет і распаўсюджылі 38 нумароў часопісі „Юнге Гардэ".

Ёсьць у нас яшчэ адзін цікавы від агітацыі. Раённы камітэт загадаў усім ячэйкам мобілізаваць сваіх вэлёсыпэдыстаў на пятніцу на палова шостае ўвечары. У Бэрліне надзвычайна многа прыходзіцца хадзіць. Значна зручней купіць у раскладку вэлёсыпэд, чым езьдзіць у трамваі; таму значная частка нашых таварышоў маюць вэлёсыпэды. А палова шостай са ўсіх бакоў прыяжджаюць вэлёсыпэдысты. Званкі і сырэны. У сакратарыяце комсамолу ўжо ўсё гатова. Да колаў прымацоўваем істужкі з чырвонай паперы. На вэлёсыпэдах—плякаты і лёзунгі. Хлопец, які едзе наперад, атрымлівае вялікі чырвоны сьцяг. Кожнаму пятаму таварышу даюцца лістоўкі. Выяжджаем. Марудна рухаецца па вуліцах наша колёна: уперадзе—сьцяг, за ім—доўгая істужка вэлёсыпэдыстых. Час-ад-часу па камандзе—раз, два, тры—разлаецца колёктыўны лёзунг:

— Усе маладыя рабочыя на сьвята МЮД'у!

— Вайна імпэрыялістычнай вайне.

— Фашыстам сьмерць. Бэрлін застанецца чырвоным.

— Абараняйце Савецкі Саюз!

Сярод рабочых-гледачоў раскідваем лістоўкі. Гэтая форма агітацыі забаронена паліцыяй. Таму ўперадзе колёны едзе наш вэлёсыпэдысты, які быццам ніякіх адносін да колёны ня мае. У яго няма ні лёзунгаў, ні істужак. Але варта яму толькі прыкмеціць поліцэйскага, як раздаецца сыгнал, і ўся колёна зьнікае ў аднэй з бакавых вуліц. Калі-ж уцячы ня можна, тады колёна гэтак шпарка праяжджае каля зьдзіўленага паліцэйскага, што ён нават не пасьпявае ўявіць у чым справа.

Сьпяшаемся, бо ў нядзелю раніцою трэба выехаць у вёску. Грузавікі ўжо гатовы. За машыну мы плоцім 25 марак у дзень. Кожны з нас уносіць 50 пфэнігаў, і мы едзем. Раптам з шумам прыяжджае атрад паліцэйскіх „шуппо" (ахранка).

— Усім злазіць.

Нас перашукваюць: шукаюць зброі. Мацаюць усіх, хлопцаў і дзяўчат, залязаюць у кішэні, але дарма. Толькі ў аднаго таварыша знайшлі нож для хлеба. Нож конфіскуецца, прозьвішча таварыша запісваецца. Урэшце, мы можам ехаць. Гудуць маторы нашых машын. Па ветру разгортваюцца нашы чырвоныя сьцягі. Мы пяем песьні і колектыўна выкрыкваем лёзунгі. Далёка ззаду застаўся горад. Урэшце мы ў Ляндзберге. Разьяжджаем па вуліцах, голасна абвяшчаем, што пасьля поўдня на базарнай плошчы адбудзецца мітынг. Затым едзем далей—у вакольныя дробныя пасёлкі. Групамі ў тры—чатыры чалавекі разыходзімся па хатах для агітацыі. Раздаем лістоўкі, прадаем газэты, часопісы, брошуры. У кожным доме гутарым на бягучыя тэмы. Часта нас сустракаюць як чаканых гасьцей, ня менш часта на нас нацкоўваюць сабак. У вёсцы фашысты даволі моцныя. Ім памагаюць абшарнікі. Тыя, хто трымае сябе „не як трэба", адразу выкідаюцца з работы і кватэры, бо ў большасьці выпадкаў кватэры належаць абшарнікам.



**Члены ЦВК БССР—батрачкі розных раёнаў Беларусі ў часе перапынку на зьезьдзе абменьваюцца вопытам працы на вёсцы.**



На здымку група беларускіх пісьменьнікаў з нямецкімі пралетарскімі пісьменьнікамі ў рэдакцыі „Чырвонай Беларусі". Першы рад: М. Кальтофэн, Алесь Некрашэвіч (Заг. Бел. Дзярж. Выд.), Р. Кайтофэн. Другі рад: Міхась Лынькоў, Платон Галавач, А. Александровіч. Трэці рад: Міхась Чарот, Ул. Хадыка, Валеры Маракоў, Бенгіна.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

* * *

Нядаўна прыяжджалі ў Менск з Дрэздэну нямецкія пролетарскія пісьменьнікі Р. Кайтофэн і М. Кальтофэн, якія друкавалі ў беларускай прэсе цэлы шэраг сваіх апавяданьняў і нарысаў з жыцьця нямецкага пролетарыяту.

М. Кальтофэн і Р. Кайтофэн у часе свайго наведваньня Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту адзначылі вялікія дасягненьні на нашым культурным фронце.

Яны ў сьценах гэтага новага магутнага волата расказалі пролетарскаму студэнцтву аб тым, як жывуць і як змагаюцца нямецкія студэнты-комуністы.

М. Кальтофэн і Р. Кайтофэн зрабілі агляд выстаўкі, стадыён імя 10-цігодзьдзя БССР, завод „Энэргія", клюб харчавікоў, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва і цэлы шэраг іншых устаноў.

Пасьля свайго прабываньня ў сталіцы БССР—Менску т.т. М. Кальтофэн і Р. Кайтофэн паехалі ў Маскву і Ленінград.

У наступным нумары „Чырвонай Беларусі" будзе друкавацца іх нарыс аб крэйсэры „Парыская Комуна", які яны наведвалі ў часе свайго прабываньня ў СССР.

■

Расійскія пісьменьнікі разам з беларускімі пісьменьнікамі ў часе свайго наведваньня Беларускага Дзярж. Унівэрсытэту: Багданаў (РСФСР), Каранеўскі (рэктар БДУ, Васіль Сташэўскі, Пятроў-Груман (сакрат. часопісі „Наши достижения"), Рэст (супрацоўнік літ. газэты), паэта Уладзімер Кірылаў, Марк Коласаў, Фёдар Гладкоў, Іл. Барашка.



■

Група беларускіх пісьменьнікаў разам з расійскімі пісьменьнікамі ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве. Першы рад: Марк Коласаў, Фёдар Гладкоў, Алесь Некрашэвіч, Багданаў. Другі рад: Пятроў-Груман, Васіль Сташэўскі, Уладзімір Кірылаў. Трэці рад: Рэст, А. Александровіч, Валеры Маракоў, Міхась Лынькоў, Ул. Хадыка і Кузьма Чорны.



* * *

Т.т. Фёдар Гладкоў, Уладзімір Кірылаў, Марк Коласаў, Багданаў, Рэст (супрацоўнік літаратурнай газэты) нядаўна прыяжджалі ў Менск для запрашэньня беларускіх гасьцей—пісьменьнікаў на тыдзень беларускай культуры ў Маскве.

У Менску з удзелам расійскіх пісьменьнікаў быў наладжаны цэлы шэраг літаратурных вечароў.

Асабліва цікава прайшлі вечары ў Доме пісьменьніка і ў Беларускім Дзяржаўным унівэрсытэце.

На гэтых вечарох выступалі з прамовамі і сваімі творамі: Фёдар Гладкоў, Уладзімір Кірылаў, Якуб Колас, Міхась Чарот, Марк Коласаў, Багданаў, Крапіва, Андрэй Александровіч, Пятро Броўка, Глебка і інш.

У доме пісьменьніка расійскім пісьменьнікам Фёдарам Гладковым ва ўсёй сваёй шырыні было пастаўлена пытаньне аб самым шчыльным яднаньні літаратурных сіл СССР.

Было пастаўлена пытаньне аб самым шырэйшым азнаямленьні расійскага чытача з дасягненьнямі беларускай пролетарскай літаратуры.

Намечаны цэлы шэраг перакладаў з беларускай мовы на расійскую да тых твораў, якія ўжо выйшлі з друку.

На тыдзень беларускай культуры былі камандыраваны з Менску пісьменьнікі: Александровіч, Міхась Чарот, Васіль Сташэўскі, Мікола Хведаровіч, Алесь Звонак, Рыгор Мурашка, Ліманоўскі, Ілары Барашка, Агняцьвет і інш.

На тыдні беларускай культуры быў праведзены цэлы шэраг літаратурных вечароў з удзелам беларускіх пісьменьнікаў, якія знаёмілі пролетарыят Масквы з дасягненьнямі пролетарскай літаратуры ў Беларусі.

Пасьля тыдню беларускай культуры ў Маскве, ў Менску, у Доме пісьменьніка, адбылася справаздача таварышоў аб сваёй паездцы на тыдзень Беларусі і аб той працы, якая была праароблена за гэты час.

Трэба ў далейшым наладзіць самую шчыльную сувязь паміж брацкімі літаратурамі СССР.

Ітак за яднаньне пісьменьніцкіх сіл.

* * *

У апошні час вышлі з друку на расійскай мове пераклады з беларускага Кузьмы Чорнага „Хвоі гаворапь", Зьмітрака Бядулі „Салавей", Міхася Чарота „Расказы", Альманах беларускай поэзіі, у якім надрукаваны творы: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота, Александровіча, Пятро Глебкі, Валерыя Маракова, Алеся Звонака, Крапівы, Цішкі Гартнага, Янкі Бобрыка і інш.

# 10 ГОД БДТ I

**1920 — 1930**



Дзесяцігодзьдзе творчай дзейнасьці БДТ I супала з яго ўдзелам у вялікім сьвяце культурнага будаўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй — 1-й олімпіадзе тэатраў і мастацтва народаў СССР. Тое цёплае спатканьне, якое устрэў тэатр у перадавой часткі рабочай клясы Савецкага Саюзу, у пролетарыяту Масквы, сьведчыць пра тое, што абраны за апошнія гады шлях зьяўляецца правільным. Гэты шлях забясьпечыў тэатру адно з першых месц на Олімпіадзе.



**Міжбур'е**

ПАСТАНОЎКА МІРОВІЧА
МАСТАК З. КРЭЙН
АПОШНІ АКТ

**Гута**

АЎТАР Р. КОБЕЦ
ПАСТАНОЎКА А. МІРОВІЧА
МАСТАК З. КРЭЙН
СЦЭНА З ІНЖЫНЭРАМ





**Група ўдарнікаў**

ЯКАЯ АТРЫМАЛА ПЕРАХОДНЫ
СЬЦЯГ АД МЭТАЛІСТЫХ
ВІЦЕБСКУ 1930.




**Мост**

ПАСТАНОЎКА А. МІРОВІЧА
МАСТАК О. МАРЫКС
АКТ 4

**Да дзесяцігодзьдзя БДТ I**

**Вышла з друку кніга АЛЕСЯ НЕКРАШЭВІЧА**

(Тэкст на гэтай старонцы зьяўляецца вынятка́й з кнігі)

Мастацкае афармленьне БАРЫСА МАЛКІНА

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

„САЮЗКІНО“ ТРЭСТБЕЛДЗЯРЖКІНО

# ЧАРГОВЫЯ ВЫПУСКІ

| МАСТАЦКІЯ ФІЛЬМЫ | ПОЛІТАСЬВЕТНЫЯ ФІЛЬМЫ |
|---|---|
| **РУБІКОН**<br>Сцэнары А. МЕНСКАГА<br>Рэжысэр В. ВАЙНШТОК<br>Опэратар Арк. КАЛЬЦАТЫ | **З НЕТРАЎ БАЛОТ**<br>(ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ<br>Сцэнары Д. ТАЛМАЧОВА<br>Рэжысэр В. КОРШ<br>Опэратар Б. МІТЛІН |
| **САПРАЎДНАЕ ЖЫЦЬЦЁ**<br>Сцэнары Л. ЗАЛКІНД<br>Рэжысэры А. ГАЎРОНСКІ і О. УЛІЦКАЯ<br>Опэратары Д. ШЛЮГЛЕЙТ і СОКАЛАЎ | **БАБРУЙСКІ КАМБІНАТ**<br>Рэжысэр В. САЛАМОНІК<br>Опэратар Б. РАБАЎ |
| **СОНЕЧНЫ ПАХОД**<br>Сцэнары А. ВОЛЬНАГА<br>Рэжысэр В. КОРШ<br>Опэратар Д. ШЛЮГЛЕЙТ | **УЛАДА САВЕТАЎ**<br>Рэж. АНЦІ-ПАЛАЎСКІ В. САЛАМОНІК<br>Опэратары С. ІВАНОЎ С. ФАЙМАН |
| **КУЛЬГАВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА**<br>Сцэнары А. КРОНА<br>Рэжысэр Ю. ВІНАКУРАЎ<br>Опэратар С. ФАЙМАН | **БУКСЫ ПЫЛАЮЦЬ**<br>Рэж. АНЦІ-ПАЛАЎСКІ<br>Опэратар С. ФАЙМАН |
| **СУД ПАВІНЕН ПРАЦЯГВАЦЦА**<br>Сцэнары А. ПАЎЛОЎСКАГА<br>Рэжысэр Е. ДЗІГАН<br>Опэратар Н. НАУМАЎ | **ТЭЛЕФОН**<br>Рэж. А ФАЙНЦЫМЕР<br>Опэратар А. РАГОЎСКІ |

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАУНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ Ў „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ

Цана 15 кап.




АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ і ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ на 1931

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР

# Чырвоная Беларусь

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „Чырвонай Беларусі" на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь" будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

## Умовы падпіскі:

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 К.**

**Падпіска прымаецца:** Аддзелам падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79; усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Тэлефон бюро падпіскі 17-12

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 85. Галоўлітбел № 1031.